ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Кніга Ноша
№ 39
жнівень, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Зміцер КОЛАС:
# «...Пакуль жыве беларуская мова»

**– Шаноўны Зміцер Георгіевіч, сёлета Вы распачалі новую кніжную серыю «Паэты планеты», у якой выдадзена 6 кніг. Якім будзе працяг гэтай серыі і якія Вашыя найбліжэйшыя выдавецкія планы?**

– Праект серыі «Паэты планеты» нарадзіўся ў размовах з літаратурнымі перакладчыкамі. Была ўтвораная рэдакцыйная рада (склад пазначаны ў кнігах). Галоўная мэта – выдаць корпус тэкстаў найбольш вядомых паэтаў свету ад старажытнасці да нашых дзён, прычым не толькі дзеля задавальнення патрэбаў шырокай чытацкай аўдыторыі, але і маючы на ўвазе навучальныя праграмы вышэйшай і сярэдняй школы, бо шмат якія значныя творы і творцы дагэтуль не перакладзеныя на беларускую мову. Зрэшты, у сувязі з малафарматнасцю кніжак серыі ў яе не змогуць уключацца буйныя творы (паэмы). Прыняты фармат прадугледжвае, што кожная асобная кніжка будзе знаёміць з творчасцю аднаго асобнага паэта. Апроч выдадзеных, сёння здадзены ў друк зборнік лірыкі Райнера Марыя Рыльке, падрыхтаваны макет зборніка рубаі Умара Хаяма, гатовыя да вёрсткі кніжкі Генрыха Гейнэ, Фрыдрыха Гёльдэрліна, Эдгара По, Катры Валы, Аляксандра Чакса, завяршаецца рэдагаванне перакладаў Гіёма Апалінэра, Яраслава Врхліцкага, Джона Кітса… Адначасова ў працы на сёння добрых паўтара дзясятка кніг серыі. Поўны спіс аўтараў, творы якіх запланавана (на гэты момант) выдаць у серыі, утрымлівае больш за 70 прозвішчаў. Спіс можа быць падоўжаны. Але можа быць і ў любы час скарочаны, бо выхад серыі залежыць ад таго, наколькі яна будзе запатрабаваная грамадствам, іначай кажучы, як добра будзе купляцца чытачамі. Гэта важна, бо пакуль усё робіцца без ніякіх датацыяў і спонсарскіх дапамог, за ўласныя сродкі двух сябраў рэдкалегіі – Лявона Баршчэўскага і мае. Апроч таго, пераклады публікуюцца на безганарарнай аснове. Гэтаксама на дабрачыннай аснове Марцінам Русецкім зроблены дызайн серыі. Кнігі прадаюцца ў кнігарнях сеткі «Белкнігі», крамах «Белсаюздруку», у «Акадэмкнізе». Заклікаем аматараў паэзіі актыўна іх набываць і прапагандаваць перад сваімі сябрамі і знаёмымі. Толькі ад гэтага залежыць, як хутка на паліцах будуць з'яўляцца новыя выпускі серыі.




**– Вы пераклалі «Чарадзейныя казкі» Шарля Перо, творы Альбера Камю, Жана-Поля Сартра, «Гарганцюа і Пантагруэль» Франсуа Рабле, «Песню пра Раланда» і шмат іншых сусветна вядомых твораў на беларускую мову. А над чым працуеце цяпер?**

– На жаль, выдавецкая справа займае амаль увесь мой час, і на пераклад яго практычна не застаецца. Безумоўна, я, па меры магчымасці, стараюся ўдзельнічаць у перакладах, якія будуць уключаныя ў згаданую серыю «Паэты планеты». А яшчэ на працоўным стале распачаты пераклад адзінага скончанага рамана (і адзінага дагэтуль не перакладзенага на беларускую мову празаічнага мастацкага твора) Альбэра Камю «Чума». Вельмі хацелася б паспець яго скончыць і выдаць да Мінскага кніжнага кірмашу ў лютым наступнага года.

**– Маладыя перакладчыкі згуртаваліся ў часопісе «ПрайдзіСвет», але для большасці пераклад твораў – хобі, а не асноўная праца. Ці мае будучыню ўвогуле перакладчыцкая дзейнасць у Беларусі?**

– Літаратурны пераклад – від творчасці, і, як усякая творчасць, ён будзе мець будучыню заўсёды, пакуль жыве беларуская мова. Што да занятку ім у якасці хобі, то мала такіх краінаў, а ў іх мала такіх перакладчыкаў, у якіх гэтая дзейнасць бывае асноўнай працай. Зрэшты, і чыста з літаратурнай дзейнасці ў свеце жывуць нямногія. Як правіла, каб забяспечыць сваё жыццё, творчыя людзі заўсёды дзе-небудзь яшчэ працуюць – выкладаюць, рэдагуюць, займаюцца журналістыкай і пад. Каб жыць з творчага мазаля, трэба набыць вядомасць, і пажадана – міжнародную, а яна толькі ў выключных выпадках прыходзіць у больш-менш маладым узросце. А часцяком – толькі пасля смерці аўтара...

### Даведка «Кніганошы»:

**Зміцер Колас – перакладчык, літаратуразнавец, выдавец. Пераклаў на беларускую мову і выдаў кнігі: Сартр Жан-Поль «Мур» (2005), Мішэль Уэльбэк «Магчымасць выспы» (2012) і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Багдановіч Ірына. Залатая Горка: вершы, пераклады, артыкулы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 400 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 80).**

Новая кніга Ірыны Багдановіч прысвечана тром Музам яе творчасці – паэтычнай, перакладчыцкай і літаратуразнаўчай. Яе склалі новыя вершы і пераклады пісьменніцы, а таксама артыкулы, прысвечаныя актуальным і мала даследаваным пытанням гісторыі беларускай літаратуры, якія адлюстроўваюць спектр навуковых зацікаўленняў аўтара. Некаторыя творы кнігі былі ў свой час надрукаваныя ў часопісах «Дзеяслоў», «Наша вера», «Роднае слова» і навуковых зборніках. Кнігу дапаўняе біябібліяграфічны раздзел, дзе аўтарка расказвае пра сябе, а рознабаковы характар яе творчасці прадстаўлены ў пагадовым спісе публікацыяў.




**Астравец Сяргей. Саргасава мора: апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 280 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 81).**

У апавяданнях Сяргея Астраўца чалавек мусіць азірацца на часы мінулыя, шукаць апірышча ў душы. Каралеўскую карону насіць каваль. Вуграм перашкаджаюць вяртацца ў Саргасава мора. Вежавы гадзіннік хавае ў сабе механізм, пакінуты продкамі. Сама краіна выклікае дэпрэсію. Што нам рабіць? Нельга не існаваць у сваім часе. Толькі быць, прысутнічаць, але не жыць па-сапраўднаму. Я толькі пабуду і пайду да сябе... Нельга адкладаць сваё жыццё, калі не даспадобы рэчаіснасць. Нічога не выйдзе... А добрая Беларусь – яна толькі ў галовах. У сэрцах. У душах. Але яе няма на зямлі.




**Някляеў Уладзімір. Толькі вершы: новая кніга. Мінск: Кнігазбор, 2016. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 82).**

Шмат хто з літаратуразнаўцаў заўважаў, што паэзія Уладзіміра Някляева не страчвае з гадамі энергетыкі, толькі набірае глыбіню. Чарговым сведчаннем таму з'яўляецца і новая кніга вершаў, што складаецца з двух раздзелаў: болей лірычнага «Падманы празрыстай вады» і больш эпічнага «Турэмная бібліятэка». Шмат у якіх вершах Уладзімір Някляеў, як заўсёды ў новых творах, нечаканы нават для даўніх прыхільнікаў ягонай творчасці.

**Перадусім Беларусь: Згадваючы Генадзя Бураўкіна: гутаркі, успаміны, эсэ, дзённікі, прысвячэнні. Укл. С. Шапрана. Смаленск: Інбелкульт, 2016. – 560 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 83).**

Кніга прысвечаная памяці Генадзя Бураўкіна (1936–2014), вядомага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, аднаго




з выбітных беларускіх паэтаў XX – пачатку XXI ст. Праз успаміны, эсэ, дзённікі сяброў і паплечнікаў паўстае вобраз Чалавека і Мастака, якога, нягледзячы на тое, што ў апошнія два дзесяцігоддзі ён не меў афіцыйнага прызнання, называлі народньш паэтам. У кнізе ўпершыню цалкам друкуюцца гутаркі з Г. Бураўкіным, якія былі запісаныя ў апошнія дні і якія падсумоўваюць вынікі яго незвычайнага і вялікага жыцця. Выданне падрыхтавана да 80-годдзя паэта.




**Ўолпал Хорас, Шэлі Мэры. Замак Отранта: аповесць. Пер. з англ. Г. Янкуты; Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй: раман. Пер. з англ. М. Дзергачовай; прадм. Г. Бутырчык. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 368 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «Прайдзі-Свет» «PostScriptum»).**

Кніга ўлучае два класічныя ангельскія творы – «Замак Отранта» Хораса Ўолпала (1717–1797), гатычную аповесць, што заклала асновы жанру, і «Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй» Мэры Шэлі (1797–1851), адзін з найлепшых узораў готыкі і першы навукова-фантастычны раман. Абодва гэтыя творы ўводзяць чытача ў свет загадкавага і дзівоснага, аднак у кожнага з двух творцаў – свой арсенал сродкаў для стварэння вусцішнай атмасферы.




**Марціновіч Віктар. Возера Радасці. Пер. В. Рыжкова. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 320 с.**

«Возера Радасці» – road movie, маршрут якога праходзіць праз Мінск, Тарасава, Вільню і Месяц. Адысея, у якой чытачу давядзецца сустрэць свінапасаў і консулаў, хостэс ды судовых выканаўцаў, амапаўцаў ды кіклопаў, татэмічныя дрэвы ды накакаіненых наяд. «Возера Радасці» – гэта летапіс пакалення, якое згубілася ў складцы паміж ліквідацыяй ВЛКСМ і яго ўрачыстым адраджэннем. Гэта кніга пра непазбежнасць сталення, а таксама пра тое, якія нечалавечыя намаганні трэба прыкласці, каб застацца чалавекам падчас шпацыру праз зачараваны лес, дзе гісторыі пра каханне і сяброўства – усяго толькі партытура для сірэн. Раман ёсць панарамным люстрам, у якім адбіваюцца апошнія 20 гадоў. Люстрам, дзе кожны чытач пазнае аскепак свайго ўласнага Месяца.

Пераклад і выданне сталі магчымымі дзякуючы МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

**Мурзёнак Пётра П. Шляхі да беларускай нацыі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 344 с.**

У кнізе разглядаюцца праблемы развіцця беларускай нацыі, датычныя да тэарэтычных асноваў будаўніцтва беларускай дзяржавы, стратэгіі развіцця беларускай нацыі, менталь-




насці беларусаў, узаемаадносінаў нацыі і свабоды, царквы і нацыі, абгрунтоўваецца існаванне ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі і інш. Кніга складаецца з тэматычных артыкулаў, апублікаваных аўтарам за апошнія тры гады ў часопісе «Культура, Нацыя» (2013–2016, № 1–14; www.sakavik.net). Для чытачоў, зацікаўленых у будаўніцтве беларускай нацыі ў сучасных умовах.




**Рыгведа: кола першае. Пераклаў з санскрыту Ігар Кулікоў. – Мінск: Медысонт, 2016. – 592 с.**

Рыгведа – найстаражытнейшы моўны твор індыйскай цывілізацыі. Гэта збор хвалебнаў, прысвечаных розным багам – перадусім Індру ды Агні. Ужо некалькі тысячагоддзяў з пакалення ў пакаленне брахманы бездакорна перадаюць Рыгведу па памяці. Слухаючы альбо чытаючы Рыгведу, мы не проста можам далучыцца да старажытнай традыцыі, але і зазірнуць у свядомасць адных з першых паэтаў чалавецтва.




**Казлоў Леў. З дазволу караля і вялікага князя. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 160 с.: іл.**

Набыўшы гэтую кніжку, чытач зможа зрабіць цікавае падарожжа ў мінуўшчыну, дзе яго нецярпліва чакаюць вядомыя і невядомыя гістарычныя асобы, што існавалі насамрэч, але з якімі здараліся малаверагодныя ці неверагодныя падзеі. Гэта значыць, што вам у рукі трапіла выданне беларускіх гістарычных анекдотаў.




**Санаценка Анатоль. Вяртанне на Радзіму: вершы, пераклады, зацемкі. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 84 с.**

Анатоль Санаценка – паэт, празаік, драматург, перакладчык, рэдактар. Выдаў пяць кніг вершаў па-руску. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, беларускага ПЭН-цэнтра. Галоўны рэдактар «Бабруйскага кур'ера». Як паэт, празаік і драматург публікаваўся ў мясцовым, рэспубліканскім, а таксама расійскім друку. У 41 год стаў пісаць па-беларуску. «Вяртанне на Радзіму» – першая кніга аўтара на беларускай мове. У ёй – пра «Радзіму, жанчыну, каханне»; пра шлях аўтара да беларушчыны; пераклады з Гіёма Апалінэра, дзед і маці якога былі з Беларусі...

**Адамовіч Андрэй. Таўсьціла і лешч: навэла. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2015. – 100 с.**

Тры сябры выпраўляюцца ў рыбу. Максім мусіць злавіць ляшча. Ён добра ведае стратэгію і тактыку лоўлі вялікай рыбы, шматлікія хітрыкі. Але вось ужо два гады яму не шанцуе. Ці дасць ён рады гэтым разам? Ці выцягне ляшча? Ці




могуць вячоркі з алкаголем ля вогнішча скончыцца панажоўшчынай? Можа быць, мясцовыя скрадуць вуды? А калі сяброў разарве мядзведзь? Нельга выключаць і пытання «А ці не ўтопіцца хто з іх?» Як завуць двух астатніх сяброў і чым будуць займацца яны? Адказы на гэтыя загадкі – у кнізе. Таксама вы можаце выкарыстоўваць яе як кароткі даведнік па фідарнай лоўлі і галактычных падарожжах.




**Мілашэўскі Зыгмунт. Доля праўды: раман. Пераклад з польскай Марыны Казлоўскай. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2015. – 414 с.**

«Доля праўды» – гэта не толькі інтрыгоўны дэтэктыў. Гэты раман – адлюстраванне жыцця сучаснай еўрапейскай краіны, грамадзяне якой спрабуюць весці балючы, але патрэбны дыялог наконт свайго не заўжды гладкага і ціхамірнага мінулага. Дыялог, тэмамі якога робяцца фашысцкая акупацыя, камуністычны рэжым, а таксама нацыяналістычная прапаганда.




**Лялько Хрысціна. Адвячорак: вершы. – Мінск: «Про Хрысто», 2016. – 220 с.**

У кнізе сабраны вершы, якія выбалелі і выстаяліся ў душы і ў лёсе аўтаркі. Напісаныя ў розныя гады, яны пазднаныя агульным пачуццём любові і роздумам над жыццём і вечнасцю, над сэнсам пражытага і пеpaжытага. Другую палову кнігі склалі пераклады польскай духоўнай паэзіі.




**Зайка Алесь. Чысты чацвер: кароткая проза (лірычныя запісы, мініяцюры, апавяданні). – Брэст: Альтернатива, 2015, – 260 с.**

Алесь Зайка – лаўрэат Брэсцкай мядовай літаратурнай прэміі за кнігу «Дым з коміна» (2011). «Чысты чацвер» працягвае тэмы, абазначаныя ў папярэднім зборніку. Творца не староннi назіральнік, яму блізкія чалавечыя памкненні, зрухі душы.




**Кульбак Майсей. Вечна. – Мінск: Шах-плюс, 2016. – 92 с.**

Зборнік складзены з двух тузінаў паэтычных твораў знакамітага яўрэйскага пісьменніка Майсея Саламонавіча Кульбака (Мойшэ Кульбака, 1896–1937). Усе творы падаюцца на ідышы і па-беларуску; некаторыя пераклады (пазначаныя ў змесце зорачкай (*)) друкуюцца ўпершыню. Прапанаваны таксама біяграфічныя звесткі пра юбіляра і фрагменты ўспамінаў Рыгора (Гірша) Рэлеса.




**Шэкспір Уільям. Выбраныя санеты: пераклад з англійскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 88 с. (Паэты планеты).**

Сёлета споўнілася 400 гадоў з дня смерці вялікага англічаніна – Уільяма Шэкспіра (1564–1616). Аўтар неўміручых «Рамэа і Джульеты», «Гамлета», «Макбета», «Караля Ліра» свайго часу таксама займеў славу майстра санетнай формы. Выбраныя санеты Шэкспіра ў найлепшых беларускіх перакладах склалі змест гэтай кнігі.




**Петрарка Франчэска. Выбраныя песні з «Канцаньерэ». Пер. з італ. Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 72 с. (Паэты планеты).**

Франчэска Петрарка (1304–1374) – адна з самых яркіх постацяў італьянскага Адраджэння; паэт, вучоны, грамадскі дзеяч. Сусветную славу яму прынеслі не лацінамоўныя трактаты і паэмы, а створаная на жывой народнай італьянскай мове «Кніга песень» («Канцаньерэ»), якая стала ўзорам для творцаў наступных пакаленняў. Выбраныя творы з гэтай кнігі падаюцца ў перакладзе, зробленым Лявонам Баршчэўскім непасрэдна з мовы арыгінала.




**Містраль Габрыэла. Выбраныя вершы. Пер. з іспанскай Рыгора Барадуліна. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 124 с. (Паэты планеты).**

Габрыэла Містраль – псеўданім чылійскай паэткі Люсілы Гадой Алькаяга (1889–1957), лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Беларускія пераклады яе найлепшых вершаў выкананыя класікам нашай паэзіі Рыгорам Барадуліным у цесным супрацоўніцтве з Карласам Шэрманам.




**Гётэ Ёган Вольфганг. Выбраная паэзія. Пер. з нямецкай Васіля Сёмухі і Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 76 с. (Паэты планеты).**

Ёган Вольфганг Гётэ (1749–1832) – вялікі нямецкі паэт, адзін з карыфеяў сусветнай літаратуры. У творчасці Гётэ-паэта выразна выяўляецца яго памкненне зліцца са светам і, дасягнуўшы гармоніі, жыць паводле натуральных законаў. У гэтым зборніку змешчаныя беларускія пераклады твораў, якія належаць да неўміручых шэдэўраў творчага дарobку паэта.

**Рансар П'ер дэ. Выбраныя вершы: пераклад з французскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 80 с. (Паэты планеты).**




П'ера дэ Рансара (1524–1585) яшчэ пры жыцці ў роднай яму Францыі называлі «каралём паэтаў». Ён быў сапраўдным лідарам «Плеяды» – літаратурнай групоўкі, якая бачыла сваёй мэтай паказаць датуль не раскрытыя магчымасці французскай літаратурнай мовы і, у прыватнасці, французскага паэтычнага слова. Важную ролю ў беларускім перастварэнні паэзіі Рансара адыграла наша выдатная паэтка і перакладчыца Ніна Мацяш (1943–2008). Частка твораў у гэтым зборніку публікуецца ў новых перакладах Лявона Баршчэўскага і Змітра Коласа.




**Сапфо. Песні. Пер. са старагрэцкай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 72 с. (Паэты планеты).**

Сапфо (каля 630 – каля 570 гг. да н. э.) – самая знакамітая паэтка Старажытнай Грэцыі. Паходзіла з Мітыленаў, што на востраве Лесбас. Выдатны філосаф Платон называў яе «дзясятай музай». У гэтай кнізе, сярод іншага, публікуецца пераклад верша «Дзяўчаты пекныя...», адкрытага даследчыкамі старажытнасці зусім нядаўна, у 2004 годзе.




**Грын Аляксандр. Пунсовыя ветразі. Пер. з рускай мовы Андрэя Каляды. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 112 с.**

Аповесць-феерыя «Пунсовыя ветразі» расійскага пісьменніка Аляксандра Грына (сапр. Грыневіч, 1880–1932) – пра дзяўчынку Асоль, што чакае прынца на караблі з пунсовымі ветразямі, пра непахісную веру ў цуд і ўсёпераможную, узвышаную мару.




**Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт: Пінская шляхта / «Палескі аўтэнтык», беларуская, ангельская, нямецкая, польская, расейская мовы – а таксама вершаваныя куплеты Уладзімера Магера (Някляева) да тэатральнай пастаноўкі рэжысёра Міколы Пінігіна. – Люцінка-Ракаў, 2016. – 150 с.**

Выданне складаецца ўсяго з аднаго твору, але якога! Геніяльнай «Пінскай шляхты», якая паўстала з-пад пяра класіка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Забароненая расійскімі акупантамі – пры жыцці драматурга не публікавалася. Упершыню пабачыла свет у Мінску, за часамі БНР у газеце «Вольная Беларусь», 1918, №№ 30–31. Першапублікацыі папярэднічала заўвага: «Твор гэты напісаны аўтарам пінчуцкай гаворкай у 1866 г. і да гэтага часу нідзе не друкаваўся. Выпраўлены на беларускі лад, ён друкуецца ў «Вольнай Беларусі» першы раз. З часам «Вольная Беларусь» выдрукуе і аўтэнтык гэтага твора». Аднак тады БНР не здзейснілася, а разам з ёй не здзейсніліся мары мільёнаў сучаснікаў пра ўласную дзяржаўную незалежнасць, пайшлі ў нябыт шматлікія культурныя здабыткі нашых продкаў.




**Кісялёў Генадзь. Выбранае. Уклад., камент. Ліі Кісялёвай, Вячаслава Чамярыцкага; прадм. Міхася Тычыны. – Мінск: Беларуская навука, 2016. – 575 с.; [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя ІІ. Гістарычна-літаратурныя помнікі).**

У аднатомнік знакамітага гісторыка, літаратуразнаўца, археографа, пісьменніка Генадзя Кісялёва (1931–2008) уключаны найбольш значныя яго навукова-папулярныя творы, літаратурзнаўчыя артыкулы, эсэ пра дзечаў беларускага нацыянальнага руху




**Сяргей Ёрш, Сяргей Чыгрын. Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916–2016). – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 104 с.**

У гэтым выданні даследуецца гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны XX – пачатку XXI стагоддзя. Гэта адно з першых асобных даследаванняў гісторыі рэгіянальнага перыядычнага друку ў Беларусі.




**Чыгрын Сяргей. На радзіме Ігната Дварчаніна: з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 140 с.**

Кніга Сяргея Чыгрына прысвечана Дзятлаўшчыне, яе знакамітым людзям, помнікам і мясцінам. Артыкулы напісаны пад час гісторыка-краязнаўчых вандровак і незабыўных сустрэчаў на дзятлаўскай зямлі. У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з фондаў Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея і з асабістага архіва аўтара.




**Мінскі Алесь. Янка Маўр: Бацька беларускай дзіцячай літаратуры. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Янка Маўр (сапр. Іван Фёдараў; 1883–1971) – вядомы беларускі пісьменнік і перакладчык, аўтар выдатных літаратурных твораў для дзяцей і моладзі. Аўтар першых у Беларусі прыгодніцкіх, навукова-пазнавальных і навукова-фантастычных аповесцяў, заснавальнік беларускай дзіцячай літаратуры.




**Чаропка Вітаўт. Станіслаў Манюшка: Музычны класік з Міншчыны. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Кампазітар Станіслаў Манюшка (1819–1872) – самы знакаміты ў свеце мінчук. Ён стваральнік беларускай і польскай оперы, класік беларускай і польскай вакальнай лірыкі. Вытокі яго музычнай мовы знаходзяцца ў беларускім фальклоры. Першыя яго вадэвілі, музычныя камедыі і камічныя оперы звязаны з Беларуссю. Усё жыццё Манюшка падтрымліваў шчыльныя сувязі са сваёй Бацькаўшчынай.




**Арлоў Уладзімір. Уладзімір Корш-Саблін: Класік беларускага савецкага кіно. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Корш-Саблін (1900–1974) – выдатны дзеяч беларускага кінамастацтва, рэжысёр, народны артыст БССР і СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Стварыў 26 мастацкіх і дакументальных стужак, прысвечаных Беларусі, у тым ліку знакамітыя фільмы «Маё каханне», «Канстанцін Заслонаў», «Чырвонае лісце».




**Арлоў Уладзімір. Уладзімір Мулявін: Рускі чалавек з беларускай душой. – Мінск: Харвест, 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Мулявін (1941–2003) – знакаміты дзеяч беларускай музычнай культуры, заснавальнік і кіраўнік славутага ансамбля «Песняры». Менавіта ён разам са сваім гуртом пазнаёміў свет з краінай пад назвай Беларусь. І менавіта ён на ўвесь голас узгадаў беларусам, што яны – беларусы. І што беларускія песні – цудоўныя!




**Юрша Василий. Ошмянский край: Том 2. Ксендзы и костелы. – Минск: Змицер Колас, 2016. – 544 с., ил.**

У працы даецца кароткае апісанне гісторыі касцёлаў і парафіяў, у розны час якія ўваходзілі ў склад Ашмянскага дэканата ад яго адукацыі і да нашых дзён; прадстаўлены некаторыя звесткі пра служак касцёла і парафіянаў, статыстычныя дадзеныя, што даюць уяўленне пра моц парафіяў.




**Лаўрэш Леанід. Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне. – Гродна: ТАА «ЮрСаПрынт», 2016. – 244 с.: іл.**

У кнізе, грунтуючыся на шматлікіх ужо раней друкаваных і архіўных матэрыялах, а таксама на мемуарах таго часу, расказваецца пра падзеі 1812, 1831, 1863 гг. на Лідчыне. Кніга будзе карыснай для чытача, які цікавіцца беларускай мінуўшчынай: настаўнікам і вучням, краязнаўцам, навукоўцам, выкладчыкам гісторыі і студэнтам.




**Великий миф маленькой Летувы: сборник статей. Составитель и редактор А. Е. Тарас. Рига: Институт белорусской истории и культуры, 2016. – 176 с.: ил.**

Тэма, якой прысвечаны артыкулы зборніка, з'яўляецца «нязручнай» і «непрыемнай» для афіцыйных гісторыкаў і ў Беларусі, і ў суседніх з ёй краінах – Літве, Расіі, Украіне, Польшчы. Па прычынах ідэалагічнага і палітычнага характару яны ўхіляюцца ад аб'ектыўнага ўсебаковага разгляду праблемаў, звязаных з гістарычнай спадчынай Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых. Публікацыяй дадзенага зборніка грамадскі Інстытут беларускай гісторыі і культуры паспрабаваў хоць бы часткова сцерці гэту «белую пляму» ў гістарыяграфіі.




**Шорох В.С. Эволюция укреплений Западной Беларуси. – Гродно: «ЮрСаПринт», 2016. – 214 с.: ил.**

У кнізе распавядаецца пра ўмацаванні, што ў розны час будаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама іх развіццё. Прыводзяцца як фартыфікацыйныя, так і гістарычныя дадзеныя пра тое, як змяняліся абарончыя збудаванні на працягу больш чым ста гадоў і прасочваюцца асноўныя тэндэнцыі ў інжынернай думцы. Кніга можа быць карысная ўсім, хто цікавіцца ваеннай гісторыяй, фартыфікацыяй, а таксама краязнаўцам і жыхарам тых месцаў, дзе знаходзяцца апісаныя аб'екты. Тэкст суправаджаецца вялікім ілюстрацыйным матэрыялам, што значна павялічвае яго нагляднасць.




**Чырвінскі Віталь. Беларусь у войнах. Асобы і падзеі. – Мінск, 2016. – 400 с.: іл.**

У кнізе праз біяграфіі найбольш значных асобаў беларускай ваеннай гісторыі, прадстаўленых у храналагічнай паслядоўнасці і дапоўненых календаром ваенных падзей і фактаў, паказаны працэс развіцця айчыннага ваеннага майстэрства, ваеннай навукі і вынаходніцтва. Таксама зроблена спроба асэнсавання вытокаў гераізму або здрады людзей, надзеленых ваеннай і дзяржаўнай уладай. Засяроджана ўвага на тым, які след пакінулі яны на беларускай зямлі, у яе гісторыі і ў народнай памяці.

**Песні пакінутых вёсак. Уступ. сл.: Н. Г. Мазурына, Г. Р. Нячаева, Т. В. Валодзіна; паслясл.: Ю. В. Пацюпа; уклад.: Т. В. Валодзіна, Н. Г. Мазурына (муз. частка); пад агул. рэд. А. І. Лакоткі. – Мінск: Беловагрупп, 2016. – 356 с.: іл.**




Выданне «Песні пакінутых вёсак» выходзіць у свет з нагоды 30-й гадавіны трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. І гэта глыбока сімвалічна. Фальклорныя традыцыі Беларусі ўбіраюць у сябе духоўны дар – мову, песню, памяць продкаў. У зборніку прадстаўлены экспедыцыйныя запісы фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў рэгіёну з захаваннем асаблівасцей мясцовай гаворкі. Кніга багата ілюстравана разнастайнымі фотаздымкамі: мясцовымі відарысамі, творамі народнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва – ручнікамі, найкаштоўнейшымі здабыткамі беларускай культуры і мастацтва.

Адрасуецца фалькларыстам, этнографам, краязнаўцам, гісторыкам, настаўнікам, студэнтам і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй і народнай спадчынай роднага краю.




**А кум кумку разуваў: Беларускі эратычны фальклор. Мінск: Медыял, 2016. – 256 с. + 32 іл.**

Эратычная тэматыка ўласцівая практычна ўсім жанрам традыцыйнага фальклору беларусаў. Жанчына і мужчына, іх любоўныя і інтымныя ўзаемаадносіны з рознай ступенню «празрыстасці» апісаны ў творах вуснай народнай творчасці, сабраных у гэтым зборніку. Кнігу склалі запісы такіх вядомых даследчыкаў XIX ст., як Міхал Федароўскі, Мікалай Нікіфароўскі, Павел Шэйн, Яўген Ляцкі, Севярын Малевіч, Адам Гурыновіч, а таксама сучасныя запісы.

Асобны раздзел склалі запісы народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Выданне паказвае элементы эратычнага фальклору ў святкаванні Калядаў, Купалля, жніва, абрадаў «жаніцьба Цярэшкі» і «гуканне вясны», сямейных абрадаў (радзіны, вяселле).




**Рэйн Леанід. Каралі і пешкі. Калабарацыя ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Пераклад з англійскай Вольфа Рубінчыка. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 443 с.**

У кнізе разглядаецца адносна мала даследаваная з'ява перыяду Другой сусветнай вайны – калабарацыя мясцовага насельніцтва Беларусі з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Зроблена спроба прааналізаваць калабарацыю як з'яву. Аналіз калабарацыі выяўляе таксама матывы паводзінаў людзей і рэакцыю грамадства, якое апынулася ў экстрэмальным, ненармальным становішчы.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кнігачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (вул. Янкі Купалы, 27).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by і e-kniga.by

# «Сэлфі з Запруднікам»



**У мінскай бібліятэцы імя Пушкіна сабралася некалькі сотняў чалавек на прэзентацыю кнігі «Кантакты», якая пабачыла свет у «Кнігазборы» і была прысвечана Янку Запрудніку – аднаму з «дванаццаткі», гісторыку, дзеячу Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, айцу-заснавальніку і кіраўніку амерыканскага аддзела «Радыё Вызваленне», якое пазней сталася Беларускай Рэдакцыяй «Радыё Свабода».**

Сустрэча адбылася пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!». У жніўні 2016 года Запрудніку споўнілася 90 гадоў, з гэтай нагоды спадар Янка з жонкай Надзеяй вырашылі наведаць Беларусь. Зразумела, з часоў незалежнасці сям'я Запруднікаў не раз прыязджала ў Беларусь, іх заўжды цёпла сустракалі. Але такога ажыятажу, ды яшчэ ў анамальную летнюю спёку, бадай, не чакалі ні Запруднікі, ні арганізатары вечарыны: у даволі вялікую, як на мінскія ўзоры, залу пушкінскай бібліятэкі людзі ішлі роўнай і шчыльнай плынню, і калі да пачатку імпрэзы заставалася хвілін пятнаццаць, у зале ўжо не было вольных крэслаў, таму наведнікі займалі будзь якое вольнае месца каля акна альбо ў праходзе.

«Маршалкавала» і «вяла рэй» на сустрэчы гісторык Наталля Гардзіенка. Яна, зрэшты, была і адной з аўтараў кнігі, якую многія наведнікі трымалі ў руках – «Кантакты», якая якраз напярэдадні прыезду Янкі Запрудніка выйшла ў серыі «Бібліятэка «Бацькаўшчыны» і, нягледзячы на партрэт доктара Янкі на вокладцы, з'яўляецца чарговым праектам вядомага тандэму Наталля Гардзіенка / Лявон Юрэвіч. На рахунку гэтага тандэму ўжо не адзін дзясятак кніг: хоць і не адзначаныя ніякімі прэміямі – ні літаратурнымі, ні акадэмічнымі, – Гардзіенка і Юрэвіч з'яўляюцца на цяперашні час найбольшымі актывістамі ў справе пашырэння ведаў пра паваенную эміграцыю. І на гэты раз матэрыялам для іх паслужылі найбагацейшыя амерыканскія калекцыі беларусістыкі і асабліва багаты эпісталярый эмігрантаў. У лістах, скіраваных да доктара Запрудніка з усіх канцоў «беларускага свету», – і скаргі, і пытанні, без перабольшання сотні імёнаў беларусаў дыяспары і метраполіі, абмеркаванні надзённых пытанняў, актуаліяў у Беларусі і Амерыцы, Еўропе і Аўстраліі.

Эпіцэнтр самога ліставання і ўласна сустрэчы, Янка Запруднік, як і ў гэтай кнізе, так і на імпрэзе заставаўся нібыта «медыятарам», мембранай, праз якую праходзілі токі беларускага жыцця на эміграцыі. У бібліятэцы Пушкіна сабраліся шматлікія ягоныя сябры і знаёмыя з часоў перабудовы і аднаўлення беларускай незалежнасці: Адам Мальдзіс, Станіслаў Шушкевіч, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Арлоў, Зьніч (Алег Бембель) і дзясяткі іншых.

Успамінамі пра сваю першую паездку за мяжу падзяліўся старэйшына беларускага літаратуразнаўства Адам Мальдзіс – гэта быў канец брэжнеўскай эпохі, калі загадчык аддзела культуры ў ЦК КПБ Іван Антановіч запрасіў даследчыка паехаць у «логава імперыялізму» па пуцёўцы ЮНЕСКА. Былі і інструктажы, і страх, і знаёмства з Антонам Адамовічам, і кур'ёзы, кансультацыі з савецкімі амбасадарамі – паводле аповедаў Мальдзіса даўно варта здымаць поўнаметражныя фільмы, настолькі яркія выходзяць сцэнарыі. «Замежныя беларусы будуць мне для розных радыёстанцый задаваць пытанні, пытанні, пытанні, а я прыеду ў Беларусь і мяне – пад рукі, пад рукі, пад рукі», – акрэсліў тагачасны свой стан Мальдзіс. Тым не менш, гэтая паездка-вылазка растапіла лёд паміж эміграцыяй і метраполіяй. «Ды і часы паціху змяняліся», – урэшце прыгадаў Мальдзіс, хоць, наколькі сур'ёзна яны зменяцца, не ведалі, бадай, ні на адным баку мяжы.

Пра канчатковую змену часоў распавёў акадэмік Радзім Гарэцкі, адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Яго знаёмства з беларускай дыяспарай адбылося якраз тады, калі нарэшце наведаць Радзіму свабодна мог кожны эмігрант: «Мы сустракалі іх – адны баяліся, другія цалавалі зямлю, трэція плакалі». Пасля доўгага расстання і поўнага адмаўлення і шальмавання ў беларускім друку, дзеячы дыяспары літаральна ў некалькі гадоў сталіся галоўнымі ньюсмэйкерамі для новапаўсталых незалежных беларускіх СМІ. Аднымі з найважнейшых «спікераў» былі якраз сем'і Запруднікаў і Кіпеляў, якія актыўна выступалі, ездзілі па Беларусі, удзельнічалі ў канферэнцыях і кангрэсах, у тым ліку – і найперш – у з'ездах беларусаў свету.

Тут, у Мінску, сустрэўся з Янкам Запруднікам і пісьменнік Уладзімір Арлоў, які ў той час працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», што распачало серыю «Галасы беларускага замежжа», упершыню выпускала ў Мінску кнігі дзеячаў эміграцыі. Арлоў распавёў і пра сваё падарожжа па Амерыцы, дзе Запруднік стаўся своеасаблівым праваднікам, чалавекам, які адкрываў іншым новую краіну.

Уражаннямі пра кнігі Янкі Запрудніка і сустрэчы з ім падзяліліся таксама Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, паэт і манах а. Іаан, Зьніч (Алег Бембель), які першыя свае кнігі выдаў пры падтрымцы беларускай дыяспары ў Амерыцы, Англіі і Польшчы; першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, кнігазнаўца Валер Герасімаў. Напрыканцы імпрэзы надарыліся прыемныя моманты – уручэнне дыпломаў лаўрэатаў конкурсу на лепшае эсэ, які праводзіўся ЗБС «Бацькаўшчына» і ў якім адным з сябраў журы быў менавіта Янка Запруднік. Самая ж арганізацыя, у асобе Алены Макоўскай, атрымала з Нью-Ёрку ганаровую падзяку Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтваў за актыўнае пашырэнне ведаў пра беларускае замежжа.

Урэшце слова было дадзена і галоўнаму герою вечарыны, Янку Запрудніку, паўтары сотні чалавек слухалі яго ў поўнай цішыні: «Апошнім часам мы маем шмат гутаркі пра дзве душы беларуса, пра яе дваістасць. Душа беларуса мае два аспекты. Адзін пакутніцкі, другі – надзейны. Пакутніцкая душа, прыехаўшы сюды, адчувае боль, таму што яна не чуе музыкі беларускай мовы з вуснаў малых дзетак. Але душа адпорная на цяжкасці, ёсць аспект надзеі ў ёй, і ён трымае нас пры працы, пры намаганнях, пры надзеі, што гэтыя намаганні не дарэмныя».

Пасля заканчэння вечарыны спадар Янка яшчэ паўтары гадзіны мужна падпісваў кнігі, фатаграфаваўся на памяць, даваў інтэрв'ю, не адмаўляў і аматарам сэлфі. На памяць прыходзілі параўнанні з нядаўнай сустрэчай са Святланай Алексіевіч, якую разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў арганізоўвала Беларуская служба «Радыё Свабода» – і ў гэтым таксама было два аспекты: боль ад таго, што сваіх інтэлектуальных лідараў людзі не могуць пабачыць гадамі. і надзея на тое, што «часы змяняюцца».

**Ціхан Чарнякевіч.**
**Фота Яўгена Ерчака,**
**budzma.by**

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Сяргей Украінка. 9 гранаў. – Мінск: Кнігазбор, 2016. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 70). – 136 с.**

Кнігу «9 гранаў» правамерна адносіць да «кнігі вершаў» як жанру, бо арганізуецца яна, як і знакамітыя зборнікі сімвалістаў, буйнымі паэтычнымі цыкламі, якім папярэднічае верш-эпіграф. Самая наяўнасць эпіграфа ўказвае на першакрыніцу – «Вянок» Максіма Багдановіча, сёлетняга 125-гадовага юбіляра.

Дзевяць цыклаў (ці «гранаў», як у аўтара) раскрываюць розныя праявы ўнутранай біяграфіі Сяргея Украінкі, але пытанні і тэмы «рубам» не ставяцца – аўтар называе іх, у поўнай адпаведнасці з сімвалісцкай спадчынай, крыху няпэўна, туманна: «Замова», «Тэарэма», «Род», «Повязь», «Дзівасіл», «Сон», «Пачуццё», «Ухмылка», «Начаткі». Разам з тым, пэўную логіку ў менавіта такім структураванні можна адчуць. Чытаючы той ці іншы цыкл, мэтазгоднасць уключэння верша ў яго разумеецца, але не так пляската, як гэта маглі б падаць школьныя падручнікі: вершы пра мову, грамадзянская лірыка, гістарычная тэма і г.д. Класіфікацыя тут калі і верагодная, то гэткая ж туманна-сімвалічная, як і сама структура кнігі Украінкі.

Нягледзячы на ўсе культуралагічныя рэмінісцэнцыі ў структуры зборніка і на яўную абазнанасць аўтара ў сусветнай паэтычнай практыцы, самая лірыка магілёўскага літаратара хутчэй адпрэчвае эстэцтва і канструктывізм сваёю сутнасцю на карысць жыццёвай прозы, трансфармаванай у паэзію.




**Уладзімір Даніленка. Клетка для івалгі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 72). – 360 с.**

Уладзімір Даніленка, старшыня Кіеўскага аддзялення Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, – адзін з самых яркіх сучасных украінскіх празаікаў. Яго творы адзначаныя нацыянальнымі літаратурнымі прэміямі, уваходзяць у рэйтынгі найлепшых украінскіх выданняў і перакладзеныя на шэраг замежных моваў.

Творчасць пісьменніка прасякнутая духам свабоды, непакоры і напоўніцу перадае ўкраінскі характар. У беларускае выданне празаічнага выбранага Уладзіміра Даніленкі ўвайшлі раман «Клетка для івалгі» пра геніяльную спявачку, якой савецкі рэжым не дазволіў рэалізаваць свой талент з-за яе сувязі з украінскімі дысідэнтамі, а таксама аповесць «Цені ў маёнтку Тарноўскіх» пра крызіс сучаснай кіеўскай сям'і, якая спрабавала вырашыць свае праблемы нетрадыцыйнымі метадамі псіхатэрапіі. Акрамя твораў буйнога жанру, у выбранае Уладзіміра Даніленкі таксама ўвайшлі пяць апавяданняў.

Творы Уладзіміра Даніленкі выдаюцца па-беларуску ўпершыню ў перакладзе Валера Стралко і Барыса Пятровіча. Дзякуючы кнізе «Кветка для івалгі», беларускі чытач можа скласці поўнае ўяўленне пра творчасць малавядомага беларускаму чытачу, але цікавага ўкраінскага аўтара.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга наша
№ 39
жнівень, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 39 26.09.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com